ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1728) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 25 ЧЭРВЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.



*Фрагмент хору сабора Св. Тройцы ў Гайнаўцы — лаўрэат першай узнагароды ў катэгорыі царкоўных хораў. Дырыжор а. Міхал Негарэвіч.*

## VIII ФЕСТЫВАЛЬ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Ад 25-га да 28-га мая ў Гайнаўскай царкве Св. Тройцы праходзілі Восьмыя дні царкоўнай музыкі. У першы, другі і трэці дзень хоры спявалі ў царкве, а канцэрт лаўрэатаў на чацверты дзень адбыўся ў Гайнаўскім доме культуры (гэта праз вуліцу).

У першы дзень мы слухалі амаль двухгадзінны канцэрт царкоўнага спеву ў выкананні вядомага ўжо мужчынскага (10 асоб) патрыяршага хору з Масквы „Древнерусский распев". Гэта быў канцэрт, які маскоўскі хор адкрыў Гайнаўскі фестываль.

Другі і трэці дзень былі днямі конкурсаў. У першы дзень выступалі: мужчынскі хор сабора св. Мікалая з Беластока, змешаны хор сабора Св. Тройцы з Гайнаўкі, студэнцкі хор СГГВ (Сельскагаспадарчая акадэмія) з Варшавы, студэнцкі хор Вышэйшай педагагічнай школы са Слупска і два камерныя мужчынскія ансамблі з-за мяжы, адзін — рускай музыкі з Масквы, называны ў скарачэні на фестывалі ў Гайнаўцы проста „Хорам Рыбіна" (Валерый Рыбін — дырыжор хору) і другі „Філіпаполіс" з Пloўдзіва ў Балгарыі. Не прыехаў планаваны на першы дзень хор Вышэйшай духоўнай праваслаўнай семінарыі пры манастыры св. Ануфрыя ў Яблачыне.

На другі дзень выступалі: маладзёжны хор царквы Св. Духа з Беластока, хор духоўных, які арганізаваўся толькі некалькі месяцаў таму пры парафіі Св. Тройцы ў Гайнаўцы пад кіраўніцтвам нястомнага Міхала Негарэвіча, - быдгаскі хор, працуючы пры Ваяводскім доме культуры ў Быдгашчы, мужчынскі хор Ягелонскага універсітэта з Кракава, хор студэнцкага душпастырства „Шумлівы ясень" з Вроцлава і камерны мужчынскі хор „Аравела" з Тбілісі ў Грузіі.

ВЕЛІЧНАСЦЬ І КРАСА

Па-за конкурсам выступіў у Гайнаўцы трэці царкоўны хор, які вось толькі пачаў сваю працу пры саборы Св. Тройцы. Гэта хор маладзенькіх дзяўчатак і хлопцаў, які спявае ўжо ў гайнаўскім саборы ў час ранішніх нядзельных багаслужбаў.

Цешыць гэтакае бурлівае развіццё харавога спеву ў Гайнаўцы. (Прыпомніць хочацца пры нагодзе і пра дасканалы беларускі хор і асабліва яго мужчынскую групу з яе высокім мастацкім узроўнем).

А доказам, што голас гайнаўскіх праваслаўных беларусаў гучыць пераможна, было сёдетняе выступленне змешанага хору сабора Св. Тройцы пад кіраўніцтвам Міхала Негарэвіча — несумненна найлепшага хору (не лічачы замежных прафесіяналаў) VIII фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Гэта вялікі хор (50 чалавек) з невычэрпнымі вакальнымі і мастацкімі магчымасцямі, ахвочы і моцны духам. Мужчыны складаюць адну трэцюю. Трэба старацца, трэба імкнуцца і трэба дабіцца падвоіць мужчынскія галасы ў хоры. Гайнаўскі хор найлепш, найбольш глыбока праспяваў абавязковы напеў VIII фестывалю — супрасльскі напеў „Достойно есть", а таксама палескі напеў „Отче наш". Я нават думала, што, калі камісія не прызнае гайнаўскаму царкоўнаму хору першага месца, я такое аб'яўлю ў „Ніве" ад сябе. Прыемна аднак, што мая ацэнка журналіста „Нівы" (адзінага зрэшты з усіх беластоцкіх газетных журналістаў, прысутнага на фестывалі) супала з ацэнкай высокай камісіі, у якой у гэтым годзе сядзелі аж два члены з-за мяжы (адзін з іх — беларускі прафесар, з ім будзе інтэрв'ю ў „Ніве").

(Працяг на стар. 6)

## З ДРУКУ

## СВЕДЧУ

### МЕТАДЫ СІЛЫ І ЗАБАРОНЫ АДЖЫЛІ СВАЁ!

*У рэдакцыю маскоўскага тыднёвіка „Неделя" чытачы з Беларусі даслалі незвычайны дакумент. Гэта невялікага друкарскага фармату, аб'ёмам на сем старонак, „Спраўка", у якой даюцца характарыстыкі нефармальным аб'яднанням у рэспубліцы. Аўтар яе невядомы, невядома таксама месца друку і тыраж. Можна толькі здагадвацца, што „Спраўка" разлічана на шырокі круг людзей, а яе галоўная мэта — напоўніць сэрцы чытаючых абурэннем у адрас „нефармалаў", разбураючых асновы грамадства. Адным словам, у „Спраўцы" дадзена адмоўная характарыстыка ўсіх нефармальных грамадскіх арганізацый, якія прапагандуюць „падазроныя лозунгі і мэты", „прабуюць граць ролю „народнай апазіцыі" савецкім і партыйным органам". Многае ў гэтым дакуменце выклікае недавер. Таму рэдакцыя папрасіла пракаменціраваць „Спраўку" і сітуацыю ў грамадскім руху ў рэспубліцы лаўрэата Ленінскай прэміі, народнага пісьменніка Беларусі, народнага дэпутата СССР Васіля Быкава.*

*Чытачам „Нівы" прапануем абшырныя фрагменты выказванняў Васіля Быкава, якія былі надрукаваны пад загалоўкам „Сведчу. Метады сілы і забароны аджылі сваё!" у 21 нумары „Недели" ад 22 — 28 мая 1989 г.*

* * *

Адным з несумненных і, быць можа, самых значных дасягненняў перабудовы з'яўляецца небывалае раней павышэнне сацыяльна-палітычнай актыўнасці народа. Маўклівыя „шрубкі" аўтарытарнай сістэмы адчуваюць сябе дзейснымі ўдзельнікамі грандыёзнага пераўтварэння краіны, разумеючы, што яе лёс у іх уласных руках. Напэўна асабліва моцна прынялі гэта да сэрца маладыя людзі, згуртаваныя ў дзесятках нефармальных, самадзейных па сутнасці, аб'яднанняў, першапланавым заданнем якіх, як правіла, стала садзейнічанне грамадскай і эканамічнай перабудове краіны. Многія з іх выявілі зайздросны энтузіязм, хоць далёка не ўсё ў іх атрымалася на выверaным, прыстойным узроўні. І гэта

(Працяг на стар. 2)

## НА МЯЖЫ

### ЧАСТКА І

# АБ СМЕШНАСЦІ

Наогул кожны чалавек мае ў сабе нейкую смешнасць. Уся праблема ў тым, што найчасцей смешнасць гэта не заўважаецца і не ўсведамляецца той асобай, якая гэтай смешнасцю валодае. Ці сапраўды валодае? Ці не лепш было б сказаць, што не чалавек валодае смешнасцю, але смешнасць валодае чалавекам? Зрэшты, валодае вельмі хітра, безасабова, спадцішка, інкогніта. Тады, калі іншыя бачаць нашу смешнасць ва ўсёй красе, для нас яна найчасцей ходзіць у шапцы-нявідцы. Зрэшты, гэта праўда была ўжо вельмі даўно выяўлена ў Бібліі, дзе сказана, што ў сваім воку не бачым бервяна, а ў чужым заўважаем трэсачку.

Біблейскі афарызм мае аднак не дасłоўны, а інсаказальны характар. І калі глянем на яго такім спосабам, дык без цяжкасці заўважым яго трапнасць і геніяльнасць.

Вернемся да смешнасці. Найбольш смешнымі з'яўляюцца тыя людзі, якія механічна пераймаюць нешта чужое. Бывае гэта найчасцей так, што аднаму чалавеку спадабаюцца жэсты, словы, позіркі, міміка, спосаб сядзець ці спосаб гаварыць у іншага чалавека. І вось гэты першы чалавек пачынае пераймаць чужыя жэсты, словы, позіркі, інтанацыю, міміку. І такім чынам тое, што было натуральнае ў звычайных паводзінах аднаго чалавека, становіцца штучнае і тэатральнае, калі пераймае яго або прысвойвае сабе другі чалавек.

Увесь камізм такой сітуацыі заключаецца ў тым, што чалавек, які пераймае чужое, перакананы, што дзякуючы таму ўзрасце яго аўтарытэт, павага, прэстыж, а фактычна прычыняецца гэта да чагосьці зусім супрацьстаўнага — да смешнасці.

І гэта адзін тып смешнасці. Апрача яго ёсць яшчэ і другі. Для прыкладу, многія людзі ва ўсіх сітуацыях стараюцца быць дасціпнымі. У сувязі з гэтым без меры, дзе трэба і дзе не трэба, стараюцца жартаваць. Жартаванне становіцца для іх сваго роду праграмай. І вось такая, на сілу робленая дасціпнасць, паметай якой з'яўляецца высмейванне ўсіх і ўсяго, даводзіць да вынікаў адваротных да тых, якія былі мэтай такога насмешніка. Сам насмешнік гэтага аднак не разумее. Ён перакананы, што з'яўляецца каралём смеху, і кожная сітуацыя павінна быць аздоблена яго анекдоцікам, намёкам, рогатам. Такога тыпу каралі не разумеюць, што ва ўспрынняцці акружэння з'яўляюцца яны толькі мізэрнымі блазнамі, а іх слоўнае кувырканне выклікае літасцівае спачуванне або пагарду.

Адной з версій чалавечай смешнасці з'яўляецца празмерная гордасць і ганарыстасць. Такія рысы дасканала паказаны і высмеяны ў п'есе Купалы „Паўлінка“. Носьбітам гэтых уласцівасцей з'яўляецца там Быкоўскі. Такіх Быкоўскіх — людзей з духоўнай пустэчай, але пры гэтым надзвычай самаўпэўненых і ганарыстых, не бракуе ва ўсіх грамадскіх слаях, у тым ліку і сярод сялянства.

Вядомы рускі пісьменнік Максім Горкі сказаў: „Чудакі упрыгожваюць свет“. І нельга не згадзіцца з гэтым, хоць можна было б сказаць і зусім адваротнае — чудакі засмечваюць свет.

**Алесь Барскі**

## З ДРУКУ

(Працяг са стар. 1)

зразумела, калі мець на ўвазе, што як члены, так і кіраўніцтвы такіх аб'яднанняў — людзі ўсё-такі недастаткова дасведчаныя ў палітыцы, а то і зусім нявопытныя ў грамадскай дзейнасці. (...)

У гэтым сэнсе многае ў дзейнасці такога, напрыклад, беларускага аб'яднання, як „Талака“, заслугоўвае на вельмі добрую ацэнку. Гэта „Талака“ прыцягнула год таму назад увагу грамадства да закінутага ўрочышча Курапаты з яго нікому невядомымі жахлівымі пахаваннямі, арганізавала там мнагатысячны мітынг жыхароў Мінска, добраўпарадкавала лясную тэрыторыю. Яна ж неаднойчы ўзнімала трывогу адносна сумнага лёсу Верхняга горада ў Мінску, нямала папрацавала пры яго рэканструкцыі і аднаўленні. Іншае грамадскае аб'яднанне — „Мартыралог Беларусі“ цаной драматычных намаганняў дабілася афіцыйнага прызнання права беларусаў на святкаванне Дня памяці продкаў, правяло некалькі перадвыбарных мітынгаў у падтрымку кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР, у лік якіх выбраны шэраг вядомых і шанаваных асоб з рабочых, вучоных, творчай інтэлігенцыі. Па ініцыятыве і з удзелам гэтага аб'яднання было рэабілітавана нямала ахвяр сталінска-берыеўскага мінулага. Кіраўніцтва арганізацыйнага камітэта Народнага фронту Беларусі выпрацавала разгорнутую праграму культурнага, эканамічнага і сацыяльнага развіцця рэспублікі, праграма, мяркуючы па водгуках спецыялістаў, магла б стаць сур'ёзным альтэрнатыўным планам развіцця Беларусі ў будучым. Магла б, але да гэтай пары не стала, бо яна не апублікавана і па сутнасці невядомая шырокаму грамадству.

Ужо стала звычаем, што аб праграмных установках „нефармалаў“ мы даведваемся не з друку, не ад непасрэдных распрацоўшчыкаў, а з вуснаў далёка не бесстаронніх крытыкаў. Грамадска-палітычная пазіцыя „нефармалаў“ першапачаткова кваліфікуецца такімі крытыкамі як варожа-падрыўная з усімі выцякаючымі адсюль паслядоўнасцямі. Актыў і члены гэтых арганізацый падвяргаюцца адміністрацыйнаму націску, пагрозам звальнення, судовага праследавання, выключэння з камсамола і партыі. (...)

У сваёй забароннай раз'юшанасці гарадскія ўлады ў гэтым годзе адмовілі мінскім „нефармалам“ права ўдзельнічаць у агульнагарадской першамайскай дэманстрацыі, і шматтысячная калона мінчан і гасцей сталіцы вымушана была павярнуць з цэнтра горада ў бок Курапатаў, дзе і правяла мітынг-маёўку — з прамовамі, чытаннем вершаў і спяваннем песень. Гэта несанкцыянаванае мерапрыемства аказалася беззаганна арганізаваным і працягвалася зранку да 5 гадзіны пасля поўдня пад пільным наглядам змаркатнелага міліцыйнага падраздзялення. (...)

Жыццё з усім перакананнем паказвае, што распаўсюджаныя ў адносінах да „нефармалаў“ безадказныя ў мінулым метады сілы і забароны аджылі сваё і яны неэфектыўны. Ужыванне кулакоў і спецыяльных сродкаў там, дзе патрэбны дыялог, палітычны дыспут і цярплівы працэс пераконвання, нярэдка даводзіць да адваротных вынікаў, як гэта, напрыклад, здарылася ў Баранавічах. Адзіны кандыдат у народныя дэпутаты СССР першы намеснік старшыні Саўміна Беларусі Ю. Хусаінаў не быў выбраны ў значнай меры таму, што на перадвыбарчым мітынгу работнікі міліцыі пабілі яго апанента мастака С. Свістуновіча. Менавіта неабгрунтаваныя і недэмакратычныя меры супраць „нефармалаў“ Мінска з боку першага сакратара гаркома КПБ В. Галко былі, на мой погляд, галоўнай прычынай таго, што яго не выбралі ў народныя дэпутаты СССР. Кіруючая бюракратыя да гэтай пары не хоча зразумець, што ў адносінах да дэмакратычных тэндэнцый правамерны толькі дэмакратычныя метады, і там, дзе іх няма, там не можа памагчы ні забарона, ні міліцыйныя сілы з самай сучаснай экіпіроўкай і спецсродкамі, якія могуць толькі паглыбіць драматызм сітуацыі. Трагічны вопыт Мінска і Тбілісі дастаткова красамоўна аб тым сведчаць.

Агульнавядома, што метад фальсіфікацыі ідэйных пазіцый праціўніка, наўмыснае абдурванне яго з мэтай хуткай і даступнай перамогі над ім — гэта не толькі паказчык нізкай культуры дыскусіі, але і сведчанне вінаватасці „нападаючага“ апанента. На жаль, у барацьбе з беларускімі „нефармаламі“ іменна гэты ганебны метад аказаўся самым хадавым і папулярным. (...)

У такой атмасферы паявіліся адыёзныя абвінавачванні „нефармалаў“ у супрацьстаўленні беларусаў — небеларусам, быццам бы мелі месца заклікі расшырэння Беларусі „да граніц Вялікага княства Літоўскага XIV ст“. Адначасова цяжка сур'ёзна спрачацца з крытыкамі тых палажэнняў „нефармалаў“, якія сапраўды паходзяць ад апошніх. Многія з гэтых палажэнняў трактуюцца іх праціўнікамі як нацыяналістычныя, хоць на справе з'яўляюцца асабліва нацыянальнымі і паявіліся цяпер у рамках разгарнуўшагася працэсу рэабілітацыі нацыянальнай мовы і нацыянальнай культуры.

Беларуская нацыянальная сімволіка (сцяг, герб Пагоня) з'яўляецца гістарычнай нацыянальнай сімволікай, пяць вякоў таму назад асвячонай супольна пралітай кроўю пад Грунвальдам, доўгай народнай барацьбой супроць іншаземных захопнікаў. Гістарычная годнасць яе не падлягае ніякім спробам дыскрэдытацыі або забароны. (...).

У многіх выпадках нячыстыя метады адносін да „нефармалаў“ паспяхова пераносяцца і ў сферу даўно складзеных, але не менш заганных адносін да цалкам фармальных, законных арганізацый. Так, нядаўнюю ініцыятыву чатырох творчых Саюзаў рэспублікі (мастакоў, журналістаў, пісьменнікаў і кінематаграфістаў) і некалькі іншых у справе стварэння антысталінскага таварыства „Мартыралог Беларусі“ кіраўніцтва рэспублікі заквалiфікавала як незаконную і адмовіла прызнаць статус гэтай арганізацыі. Тым самым, па сапраўднасці, была выражана пагарда да палітычнай волі велізарнай часткі нацыянальнай інтэлігенцыі рэспублікі, так і не здолеўшай у законным парадку абараніць сваё законнае дэмакратычнае права.

Пакінуты без вынікаў, гэты антыдэмакратычны акт улад, як і трэба было чакаць, знайшоў сваё далейшае развіццё, калі органы міліцыі правялі ўзлом у памяшканні Саюза пісьменнікаў БССР. Маленькі правінцыянальны „уотэргейт“, праведзены па-зладзейску, ноччу, без ведама кіраўніцтва Саюза, выклікаў буру пратэстаў грамадскасці і таксама застаўся без вынікаў. Велізарная армія творчых работнікаў рэспублікі аказалася пазбаўленай усялякай магчымасці рэалізацыі сваіх элементарных грамадзянскіх правоў. Шматлікія звароты ў праваахоўныя органы з боку і „фармалаў“ і „нефармалаў“ канчаюцца аднатыпнымі адказамі накшталт таго, што пракуратура (раёна, горада, рэспублікі) у дзеяннях міліцыі (МУС, выканкома) процізаконных матываў не бачыць. (...)

Так, многае змянілася ў грамадска-палітычнай атмасферы нашага грамадства, але, на жаль, далёка не ўсе могуць або хочуць гэтае ўсвядоміць. Беспрэцэдэнтная грамадска-палітычная актыўнасць у перыяд выбарнай кампаніі, дасягнутая не ў апошнюю чаргу і намаганнямі „нефармалаў“, пачынае заўважальна падаць. І ў гэтым таксама выявілася поўнасцю негатыўная пазіцыя ў адносінах да іх бюракратыі, што, зразумелая справа, цяжка пагадзіць з прынцыпамі дэмакратызацыі і перабудовы. Толькі супольнымі намаганнямі ўсіх слаёў грамадства, усіх яго плюралістычных думаючых сіл, падтрымоўваючых перабудову, магчыма паспяховае завяршэнне апошняй. Не ў канфрантацыі, а ў кансалідацыі і супрацоўніцтве наша канструктыўная сіла, калі мы на справе, а не на словах намераны ажыццявіць задуманае.

**Васіль Быкаў**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## агульнапольскі семінар

40 кіламетраў ад Ольштына, над возерам Мельна, ёсць асяродак адпачынку „Маладосць". Сярод зялёных хвоек стаяць домікі, на вадзе калышуцца лодкі.

Нашы дзеячы — студэнты Уладзімір Пац (намеснік старшыні Рады культуры беларускіх студэнтаў у Ольштыне), супольна з Раманам Семенюком (старшынёй Рады культуры) і Яраславам Зелянкевічам (прэсінфарматарам) прыдумалі арганізаваць у гэтым асяродку агульнапольскі семінар студэнтаў беларускай нацыянальнасці. Запрасілі вядомых дзеячоў на беларускай ніве — пісьменніка Сакрата Яновіча, гісторыка доктара Юрку Туронка, гісторыка і публіцыста Яўгена Мірановіча, журналіста „Нівы" Яна Максімюка (на жаль, не змог прыехаць), а таксама і мяне.

12 мая на чыгуначна-аўтобусным вакзале ў Ольштыне чакаў нас аўтобус. Падаў майскі дождж. Прыехалі студэнты з Варшавы. А 21 гадзіне пад'ехаў аўтобус з „Грамады" і мы паехалі ў Мельна. Даехалі глыбокай ноччу, упоцемках шукалі сваіх домікаў у мокрым лесе. Калі ўжо закватараваліся, сабраліся ў святліцы на супольную вячэру, а пасля танцавалі да поўначы пры беларускіх песнях.

У суботу распачаўся ў святліцы семінар. На сцяне святліцы — скрыжаваныя бела-чырвона-белыя сцягі Беларусі. У першы дзень меў даклад Юры Туронак на тэму „Аб справах свядомасці беларусаў у Польшчы". Яўген Мірановіч гаварыў аб веравызнаннях у Беластоцкім ваяводстве і пра асіміляцыю беларусаў у горадзе. На заканчэнне Сакрат Яновіч вельмі цікава гаварыў пра ўсё тое, што нас трывожыць, пра стан беларускай душы. Вечарам загарэлася вогнішча. Гукі беларускіх песень несліся далёка над вогнішчам і лесам аж да Грунвальда, дзе ў 1410 годзе біліся з крыжакамі літоўска-польскія войскі.

У нядзелю пасля абеду ўсім стала сумна, што так хутка праляцелі два дні і трэба вяртацца. Пад'ехаў аўтобус і мы паехалі ў Грунвальд. Нашы хлопцы неслі сцягі Беларусі, паміж сабою гаварылі па-беларуску, і хто нас мінаў, той аглядаўся — якія гэта людзі ідуць са сцягамі? З намі быў праваднік Станіслаў, які дакладна паказаў, дзе былі бітвы. Цяпер поле бітвы парасло дрэвамі.

Пасля Грунвальда мы падаліся ў Ольштын, а затым кожны накіраваўся дамоў. Хто — у свой дом студэнцкі, хто ў Гданьск, хто ў Варшаву, хто на Беласточчыну...

Да наступнай сустрэчы, сябры!

**Андрэй Гаўрылюк**



*Злева: Міраслаў Урбановіч, Сакрат Яновіч, Яўген Вапа, Юрка Туронак, Яўген Мірановіч і Андрэй Гаўрылюк.*

## МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАЛОМНІЦТВА

Сёлетняе паломніцтва на Святую Гару Грабарку адбылося 19-21 мая 1989 г. Сонечнае надвор'е прыцягнула вельмі многа маладых людзей. І здаецца, большасць з іх прыехала сюды дзеля адной мэты — пакланіцца Богу, а пры нагодзе пабыць некалькі дзён на гэтай цудоўнай Гары. Цешыць, што не было відаць п'яных, якіх яшчэ некалькі гадоў раней сапраўды было нямала. Цешыць таксама парадак і непаўторная атмасфера.

У вялікай ступені ўдзячнасць належыць арганізатарам з Брацтва праваслаўнай моладзі. Выпадае назваць хоць бы некалькі прозвішчаў: А. Цэтра — галоўны арганізатар, У. Місеюк С. Макаль, С. Назарук — каардынатары, А. Анісімовіч, А. Ваўранюк — інфармацыя, Я. Бусловіч — парадак, М. Моцька — артыстычная частка на вогнішчы.

Моладзь пачала прыязджаць яшчэ ў пятніцу раніцай. Але, як заўсёды, найбольш перапоўнены цягнік прыехаў з Беластока, каля гадзіны 17.00. У Сычах высыпаліся на перон сотні маладых дзяўчат і хлопцаў з палаткамі і ранцамі. Затым усе накіраваліся на Святую Гару, дзе ўжо працавала інфармацыйная служба, заданнем якой было падзяліць усіх на сектары, раздаць нумары палаткам, эмблемы „Грабарка '89" і браць аплату 1000 зл.

Афіцыйна паломніцтва пачалося а 18.00 гадзіне Вячэрняй і свячэннем вады. Затым усе сабраліся ў сектарах, пазнаёміліся са сваімі духоўнымі апекунамі і, пасля кароткай малітвы, павячэралі. Каля гадзіны 21.00 адбылося свячэнне крыжа ад моладзі, а яшчэ пазней служылася Паніхіда на магілах епіскапа Алексія і ігуменні Барбары.

Субота ўсіх прывітала цудоўным надвор'ем, спевам птушак і халоднай вадой ручайка. А царква пачала дзень Літургіяй.

Пасля снедання моладзь сабралася ў цэнтры палатачнага поля на сустрэчу са святарамі і гасцьмі. Усе сардэчна прывіталі епіскапаў Саву і Ярэмія, мітрапаліта Гедэона з Новасібірска, айца Васіля з Грэцыі, гасцей з Фінляндыі і Канады, а таксама прадстаўніка пратэстанцкай царквы са Швейцарыі.



Заслужаным прадстаўнікам Брацтва: Славаміру Назаруку, Славаміру Макалю і Міраславу Мартынюку — былі ўручаны ордэны Марыі Магдаліны III ступені. Сустрэча працягвалася каля дзвюх гадзін. Ад пякучага сонца не было дзе схавацца. Таму пасля на спатканні ў дыскусійных групах усе выбіралі месца дзесьці пад дрэвам, у цяньчку. Дыскусійных груп было некалькі, і кожны мог сабе выбраць і тэму і дакладчыка. Наша БАС-аўская група выслухала айца Уладзіміра Місеюка ў дакладзе на тэму „Усемагутнасць Бога і зло на свеце".

Потым быў супольны суп на абед, і зноў усе сабраліся разам. На гэты раз былі прадстаўлены прапановы на лета як ад Брацтва, так і ад БАСу. Мы прапанавалі „Купалле" (25.VI. г.г. у Супраслі), рэйд „Бацькаўшчына" і рэйд праваслаўнай моладзі, які арганізуе Юрка Асеннік.

Набліжаўся вечар. На Святой Гары пачалася Вячэрня. Тым часам за Гарою група арганізатараў рыхтавала вогнішча, якое пачалося а восьмай. На па-

(Працяг на стар. 4)




Гарыць купальскае вогнішча, дзяўчаты і хлопцы, абняўшыся, вядуць наўкруг карагоды; спяваюць, скачуць праз агонь, цешацца, што ў найпрыгажэйшую ноч года могуць быць разам. Затым па вадзе плывуць вяночкі, а неўзабаве мокрыя, але ўзрадаваныя хлопцы адшукоўваюць сваё шчасце...

Купалле ў народных вераваннях нашых продкаў — гэта вялікае свята святла, сонца і вады. Зыходзіцца яно з днём летняга сонцазвароту. У гэты ж дзень Даждждбог-сонца, зварочваючы на зіму, перадае свае правы брату Сварожычу-агню; таму ў купальскую ноч пакланяліся агню і спадзяваліся на ачышчэнне ім, а варта пры тым дадаць, што першапачаткова праз вогнішча скакалі ў парах — дзяўчаты з хлопцамі.

У купальскае вогнішча кідалі кветкі і траву, зношанае адзенне, ламачча — у знак абнаўлення жыцця. У Беларусі і Расіі ў агонь укідалі белага пеўня, як дар добрым багам, галоўным чынам, найвялікшаму ў пантэоне нашых міфічных бостваў — Пяруну. Купальскае вогнішча адганяе зло і гора. Толькі ёсць адна ўмова — трэба, каб было яно распаленае жывым агнём.

Час Купалля супадае з хрысціянскім святам нараджэння св. Яна Хрысціцеля. Невыпадковае гэта супадзенне. Відаць тут прыстасаванне дня хрысціянскага свята да часу, калі спраўляўся язычаскі абрад (падобна Калядам ці Грамніцы), разам з гэтым заўважыць можна цікавыя аналогіі пры параўнанні хрысціянскіх імёнаў і здарэнняў з абраднасцю Купалля. Так вось, слова „Купалле" паходзіць ад назвы боства Купалы (Ладо, Ярыло) або Купальніцы — багіні вады (Мокаш), а гэта зноў ад слова купаць — апускацца ў ваду. А св. Ян хрысціў жа Хрыста, акунаючы ў ваду.

У беларускіх вераваннях на Купалле з вадою на рэках дзеюцца дзіўныя рэчы. На ўсходнім Палессі спявалі: „у возеры сам Бог купаўся з дзеткамі, судзеткамі" і „Дзе Іван купаўся, бераг калыхаўся. Дзе Марыя купалась, трава рассцілалась". Тут хрысціянскія імёны толькі замянілі забытыя імёны добрых светлых бостваў з язычаскіх часоў — грамаўніка і грамаўніцы; святкаванне тае багіні перайшло ў хрысціянскі час на дзень перад св. Янам (Аграфена-купальніца; мч. Агрыпіны).

Вяртаючыся да св. Яна Хрысціцеля, варта прыгадаць цікавыя думкі рускіх фальклярыстаў пал. XIX ст. Знайшлі яны аналогіі між словам „Креститель" і праслявянскім словам „крэс" — агонь. А зноў славакі месяц ліпень называюць — крэснік. Некаторыя даследчыкі дапускалі, што Іван Купала — свята двух бостваў, мужчынскага і жаночага: Іван — Ян, Янус — бог святла і Купала= Купальніца — багіні вады (Мокаш).

У купальскую ноч уся прырода становіцца нязвыклаю. Расліны набіраюць незвычайнай моцы; дубы пераходзяць з месца на месца і шумам галін гамоняць паміж сабою аб сваіх даўніх гераічных часах, нібыта воі, заварожаныя ў дрэвы... Купальскія травы і кветкі карыстаюцца вялікай лекавай і абароннай сілай ад хвароб, злых духаў і няшчасцяў. Абмыванне твару купальскай расою прыдае яму свежасці...

Пошум дрэў і шолах траў можа зразумець толькі той, хто пры сабе мае кветку папараці. Каму ўдасца сарваць кветку — „Пярунова квецце", той будзе ўладальнікам звышнатуральнай сілы. Над ім не будуць ужо мець улады злыдні і нячыстыя моцы. Каб дастаць кветку папараці, трэба купальскай ноччу адправіцца ў лясны гушчар, найлепш так глыбока, каб не



было там чуваць пеўня. І тут, у лясной нетры, трэба адшукаць куст папараці, затым узяць палку — „Пярунаву паліцу", абвясці ёю круг навокал папараці, сесці тут жа і чакаць кветкі... Калі кветка шчасця пакажацца, трэба адразу сарваць яе. Тады выляцяць з пекла чэрці — будуць страшыць, пагражаць адважнаму, будуць выць, скрыгатаць зубамі, пранізліва граць на скрыпцы... Але не можна пералякацца і выйсці з круга, пакуль не ўзыйдзе сонца...

Адзін дзядуля з-пад Бельска расказваў мне ў сакрэце, што, маладым быўшы, бегаў і ён у пошуках „цудоўнай" кветкі, але д'яблам удалося яго спужаць.

Пад Бельскам, у Рэйпічах і Студзіводах, існуе вераванне ў ваўкалакаў. Прыходзяць яны ў купальскі вечар да вёсак і затрымоўваюцца каля сялянскіх калодзежаў. Калі па ваду прыходзіць маладзіца, такі ваўкалак просіць яе адгадаць імя, якое меў ён, будучы звычайным чалавекам. Ваўкалак, пачуўшы ўрэшце з вуснаў маладзіцы сваё імя, скідае воўчую скуру і становіцца перад ёю прыгожым кавалерам. А далей...

У некаторых ваколіцах ёсць пераказы, што на Купалле сонца выязджае на трох конях — залатым, сярэбраным ды брыльянтавым на сустрэчу месяцу (які ў той час знаходзіцца найніжэй) і рассыпае па небе вогненныя іскры, якія можна пабачыць пры ўсходзе. Таму і варта на Купалле чакаць усходу сонца!

Да нашых дзён дайшло неацэннае апісанне Купалля з XVII ст. Было яно змешчана ў „Синопсисе" (рускай гісторыі, 1679 г.) архімандрыта Кіева-Пячэрскай лаўры — Інакенція Гізелья.

Вось гэты тэкст прыводжу ў арыгінале:

„Тогожде Купала (собутка) бога, или истиннее беса і до селе па некім странам российскім еще память держится, найпаче в навечерні рождества святого Іоана Крестителя, собравшеся в вечер юноши мужеска, девическа и женска полу, соплетают себе веньцы от зелия некоего и возлагают на главу і опоясуются ими, еще же на том бесовствем играиіщи кладут и огнь и окрест его емшеся за руце нечестиво ходят і скачут и песни поют, скверного Купала часто повторяюще і через огнь прескачующе, самыя себе томуж бесу Купалу в жертву приносят. І іных действ дявольскіх много на скверных соборищях творят, их же и писати не лепо есть!"

**Мікола Сахарэвіч**

# БЕЛАРУСІКІ

Strońska Anna, Czym się trudni mysz. (Białorusini z Białowieży). *Kontrasty* 1978, nr 7, s. 9—12, il.

Strońska Anna, Na brzozorusi. (II wojna światowa w twórczości pisarzy białoruskich). *Argumenty* 1979, nr 9, s. 6—7, nr 10 s. 6, il.

Strońska Anna, Korespondencja z trzech republik. Białoruś. Litwa. *Polityka* 1980, nr 7, s. 12, il.

Struski Albin, Kombinat Mięsny w Wołkowysku. *Gospodarka Mięsna* 1971, nr 6, s. 11—13.

Stuk Anatol, Order za krytykę. (Komedia Andreja Makajonka). Korespondencja z Białorusi. Tł. *Scena* 1975, nr 5, s. 30—31, il.

Suchanek Lucjan, Gatunek poematu klasycystycznego w twórczości Eugeniusza Boratyńskiego. *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Prace Historyczno-Literackie* 1979, z. 37, s. 57—66.

Suchanek Lucjan, Białoruś-Dobroruś. (Piśmiennictwo Białorusi i jego recepcja w Polsce). *Tygodnik Powszechny* 1983, nr 19, s. 8.

Suczasnaja belaruskaja mova. (Pytanni kultury i movy). Red. A. I. Žuraŭski, G. U. Arašonkava. Mińsk 1973. Rec. Głuszkowska J. *Slavia Orientalis* t. 24: 1975, nr 1, s. 115—116; Szadyko Stanisław, *Slavia Orientalis* R. 26: 1977, nr 2, s. 239—243.

Suchan Zbigniew, 500 wsi odciętych od świata. Ofiarna walka z powodzią na Białorusi. Korespondencja z Moskwy. *Życie Warszawy* 1974, nr 274, s. 4.

Sudnik Mychajło: Słounik asabowych ułasnych imion. Mińsk. 1965. Rec. Kondratiuk Michał, *Acta Baltico-Slavica* t. 5: 1967, s. 432—433.

Sujka Bogumił, W trzecią rocznicę Nagrody Moskiewskiej. *Życie Partii* 1972, Nr 58, s. 44—45.

Surganow Fiodor. Osiągnięcia i perspektywy. Socjalistyczna Białoruś. Tł. z ros. *Trybuna Ludu* 1976, nr 262 s. 7.

Syrokomla W., Marchiel Uładzimir, Lirnik wiaskowy. Mińsk 1983. Rec. Sielicki Franciszek, *Acta Univ. Wratisl. Slav.* 1986, t. 39, s. 143—145.

Szachowicz Michał, Podgiąwszy nogi pod kocem legendy. (w). Tł. z białor. Jan Leończuk. *Warmia i Mazury* 1978, nr 10, dod., s. 14.

Szachowicz Michał, Janowicz S., Lemiesz A., Traczuk J., Tomaszewski J., Listy do redakcji. Piarejma—Sofipol? *Polityka* 1983, nr 12, s. 7; Replika. Szymczak Mieczysław, *Polityka* 1986, nr 21, s. 5 (chodzi o spolszczenie nazw miejscowości pochodzenia białoruskiego na Białostocczyźnie).

Szachowicz Michał, „Białowieża". (Białoruska grupa literacka w Polsce). *Kontrasty* 1985, nr 2/3, s. 42—43.

Szachowicz Michał, Czy istnieje problem białoruski? *Kontrasty* 1985 nr 8, s. 20—22, il.

Szachowicz Michał, Jeszcze jedna nasiadówka (o mniejszości białoruskiej w Polsce). *Kontrasty* 1986, nr 10, s. 46.

Szadyko Stanisław. Akcent w złożeniach rzeczownikowych współczesnego języka białoruskiego. *Slavia Orientalis* R. 24: 1975, nr 2, s. 181—185.

Szamiakin Iwan, Nieładna. Tł. z białor. Anna Sobecka. *Literatura* 1977, nr 42, s. 10.

Szczerbakow Konstantin, Wojna Wasyla Bykowa. Tł. z ros. Ewa Lenart. *Literatura na Świecie* 1977, nr 10, s. 324—335.

Szczukajtys Ewa, Zwyczaje i obrzędy pogrzebowe Białorusinów i Litwinów zamieszkałych w Polsce. *Dyskusja. Biuletyn Woj. Domu Kultury w Białymstoku*, Białystok 1985, nr 4, s. 14—21.

Szerszunowicz Wacław, Kazimierz Andrzej Jaworski jako tłumacz i popularyzator poezji białoruskiej (oraz) Przekłady K. A. Jaworskiego z poezji białoruskiej (opis bibliograficzny za lata 1935—1973). *Studio Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 83—130.

P.C.

# ВЕЛІЧНАСЦЬ І КРАСА

(Працяг са стар. 1)

Асмельваюся выказаць сваю нязгоду з журы ў іншым выпадку. Я не згодна з ацэнкай хору Рыбіна з Масквы. Ён разам з грузінскім хорам поўнасцю заслугоўвае самага высокага прызнання. Выступленне маскоўскіх пеўчых Рыбіна — самае суцэльнае, самае чыстае, самае мэтанакіраванае праваслаўнае царкоўнае служэнне. А пачулі б вы гімн П. Часнакова „Да исправится молитва моя“ ў выкананні салісткі ў суправаджэнні хору!

Як вялікае адкрыццё далёкай праваслаўнай Грузіі, у нейкім сэнсе нават экзатычнай, было выступленне хору „Аравела“ з Тбілісі. „Што абазначае назва „Аравела?“ — спытала я ў грузінаў. Паясненні даваў і ўвогуле пра ансамбль расказаў мне Леван Гвінджылія. Запісаў нават у маёй кніжцы свой адрас і тэлефон. „Калі будзеце ў Грузіі, абавязкова заходзьце“, — сказаў.

Слова „аравела“ абазначае „песня аратага“ і навязвае гэтая назва да факту, што грузін ад найдаўнейшых часоў песняю любіў маліцца. Хор працуе няпоўны год. У праграме старыя грузінскія песні, якія спяваюцца і дагэтуль на вяселлях, хрысцінах, мярлінах.



Тры асобы з хору Рыбіна. Ён, Валерый Рыбін, пасярэдзіне.



Дэбютант на фестывалі — хор гайнаўскіх айцоў. Другі злева — Міхал Негярэвіч.

На заканчэнне „Аравела“ выканала першы раз па-за сваёй краінай твор Іосіфа Кечакмадзэ (народны артыст Грузінскай ССР) п.з. „Рэквіем“, прысвечаны забітым у час мітынгу на плошчы ў Тбілісі. Першы раз яны спявалі гэты драматычны твор 19 мая г.г. у сябе ў Грузіі. Ён выражае заклік да любові, міру і расказвае пра грузінаў як патомкаў Давіда.

Вельмі добра, што гайнаўскі фестываль прыцягвае хоры здалёк. Яны ўзбагачаюць фестываль, даюць магчымасць абмену вопытам. Вельмі добра таксама, што павялічваецца колькасць царкоўных хораў Беласточчыны ў фестывалі і што яны дасягаюць узроўню, на якім могуць спаборнічаць і перамагаць найлепшых.

Адно спалучае ўсе спевы гайнаўскага царкоўнага фестывалю — гэта яго невыказная велічнасць і краса.

З афіцыйных вынікаў:

У катэгорыі царкоўных хораў: I месца — змешаны хор сабора Св. Тройцы ў Гайнаўцы, II — маладзёжны змешаны хор царквы Св. Духа з Беластока.

У катэгорыі свецкіх аматарскіх хораў: I — Быдгаскі хор пры ВДК, II — хор Вышэйшай педагагічнай школы ў Слупску.

Замежныя хоры былі ацэнены наступным чынам. Найлепшым быў прызнаны хор „Аравела“, дзве другія ўзнагароды атрымалі — хор царкоўнай музыкі Рыбіна з Масквы і балгарскі хор „Філіпаполіс“ з Плоўдзіва.

**Вера Валкавыцкая**
**Фота У. Завадскага**

# ГУТАРКА ЗАМЕСТ ЛАЯНКІ

Са свайго нядаўняга і даволі няўдалага наведання Беларускай Рэспублікі прывёз я сціплую кніжыцу „Беларуская савецкая літаратура за мяжой“; напісана аж групай аўтараў і фірмавана Акадэміяй навук Беларускай ССР. І хоць тыраж не на ўзроўні канспіратыўных выданняў, з'яўляецца яна для нас важнай. Перш за ўсё сваёй тэматыкай прысутнасці беларускай культуры ў Еўропе. Аж не верыцца цяпер, што не так вельмі даўно пісаць пра гэта было рызыкаю або і немагчыма.

Усяго на няцэлай сотні старонак „Беларускай савецкай літаратуры за мяжой“ чытач упаткае нямала сенсацыйнага для сябе. Пра шмат-што даведаецца і з крыўдаваннем у душы; шэраг звестак павінны ж быць проста банальнымі для беларускага інтэлігента. Напрыклад, шырокі выхад беларускай літаратуры ў замежжа дваццатых гадоў, перапынены фашызмамі з трыццатых (першыя ўдары па Беларусі мелі месца ў 1929 г.). Ізаляцыя зацягнулася на пасляваенную эпоху. Яе подых адчуваецца і сёння. Чаму б не падаць, хто з беларускіх пісьменнікаў ездзіў у 1927 годзе ў Нямеччыну, Францыю, Чэхію? І як адбывалася супрацоўніцтва вядомай літаратурнай арганізацыі „Узвышша“ з творчымі асяроддзямі Заходняй Еўропы і Амерыкі? Ды кім быў Е. Энгельгарт, знакаміты нямецкі перакладчык паэзіі Максіма Багдановіча?

Мінскія газеты тых часоў мелі ўласных карэспандэнтаў у Нямеччыне, Францыі, Англіі; нават у Індыі. Як і трэба сталічным рэдакцыям.

Прачытанне „Беларускай савецкай літаратуры за мяжой“ выклікае адначасна і засмучанасць: надта праўдападобна, што ў беларускай Акадэміі навук даволі несістэматычна або і выпадкова сочаць за пашырэннем цікавасці да беларускага ў міжнародным культурным жыцці. Дэталёвая і актуальная дакументацыя гэтай з'явы на арэале Балгарыі альбо Чэхаславакіі ўспрымаецца як прыкры дысананс, калі супаставіць яе з маргінальнасцю трактоўкі ўспрыняцця нашай літаратуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Найцямней пад лямпачкай, сказаў бы тут іраніст. У суседняй Польшчы існуе не толькі адзіная ў замежжы універсітэцкая кафедра беларускай філалогіі, але і прафесіянальныя даследнікі беларушчыны з нямалазначнымі публікацыямі. І не належыць да іх ліку В. Жукроўскі, як здаецца гэта ў Мінску. І ёсць куды лепшыя перакладчыкі, чымсці ў згаданым коле люблінскай „Камэны“ (дарэчы, банкрутаваўшай на літаратурным рынку). Я не бачу асаблівай ролі Беларускага грамадска-культурнага таварыства нашага ў развіцці беларуска-польскіх літаратурных сувязей і адчуваю сябе здзіўленым гэткай пахвалою нас (на стар. 54). Дзеля такой лучнасці трэба асабістых кантактаў паміж пісьменнікамі, а не арганізацыі нейкай з бюракратычным апаратам. Так заўсёды было ў гісторыі, і так застанецца.

Аўтары „Беларускай савецкай літаратуры за мяжой“ маюць цалкавітую рацыю, калі заўважаюць, што мала хто прычыніў ёй большую шкоду, чымсці „...некаторыя савецкія літаратуразнаўцы, гісторыкі, публіцысты і пісьменнікі. Іх рэзкая, неаб'ектыўная, а падчас і абразлівая крытыка пад выглядам ідэалагічнай барацьбы (многія з іх зводзілі разгляд усяго складанага працэсу ўзаемасувязей да ідэалагічнага супрацьстаяння) не садзейнічала паляпшэнню адносін (...) штурхала на канфрантацыю...“. Прыводзіцца задарэнне з кнігай аўстрыйскага энтузіяста беларускай літаратуры Фердынанда Нойрайтара, якому дасталася з мінскага напрамку і ў хвост і ў грыву менавіта за тое, што ў сваю анталогію ўключыў ён беларускіх пісьменнікаў з Беластоцкага краю і з эміграцыі. „Гісторыя пакажа, што ўвойдзе ў літаратуру і хто ў ёй застанецца. А пры дапамозе дырэктыўных указанняў нікога яшчэ класікам не зрабілі“, — слушна зазначаюць акадэмічныя аўтары.

Замест паўпісьменнай лаянкі нібы-прафесараў з камандзірскім тэмпераментам, прычакалі нарэшце спакойных слоў кампетэнтнай ацэнкі ў гэтай кніжыцы Вера Рыч і Арнольд Макмілін, якія далі беларускай літаратуры той першы міжнародны пашпарт. Таму „першы міжнародны“*, што зрабілі яны сваю работу таленавіта, яна — як перакладчыца, ён — як гісторык. І ў англійскай мове, роля якой у сучасным свеце параўнальная з латынню ў колішняй Еўропе, у світанне пасляантычнай цывілізацыі.

Калі б я быў мэрам Мінска, прысвоіў бы ім за гэта ганаровае грамадзянства беларускай сталіцы...

**Сакрат Яновіч**

*) Vera Rich — An Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day, London 1971.

Arnold B. McMillin — A History of Byelorussian Literature. From its Origins to the Present Day, 1977.



*Двое з „Аравелы". Першы злева Леван Гвінджылія.*



*Хор Ягелонскага універсітэта.*

## КІРМАШ СУПРАЦОЎНІЦТВА

У Беластоку адбываецца III кірмаш прыгранічнага абмену. На працягу 4 дзён (20-23 чэрвеня) пад патранатам міністра ўнутранага рынку і беластоцкага ваяводы запланавана рэкамендаваць вырабы некаторых прадпрыемстваў і суполак Беласточчыны прадстаўнікам Савецкай Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Арменіі і Расійскай федэрацыі.

У кірмашы ўдзельнічае 40 адзінак з Беласточчыны і 15 з іншых ваяводстваў. На выставачнай плошчы пры вул. Кавалерыйскай (2,5 тыс. квадратных метраў) паказаны электрычныя вырабы, аўтаэлектратэхніка, бытавыя тавары, мэбля, абсталяванне для аховы асяроддзя, медыцынскія прылады і прыборы, спартыўныя і турыстычныя тавары, касметыка, сувеніры, дзіцячыя цацкі і інш.

Сёлета гэтае гандлёвае мерапрыемства ўзбагачана папулярызацыяй навуковых дасягненняў Беластоцкай палітэхнікі. Прапануецца савецкім прадстаўнікам супольнае выкарыстоўванне тэхнічнай думкі ў прадукцыйным заспадаранні пластмасавых адпадкаў, непрыгодных ужо аўташын (апон), тэхналогіі будаўнічых матэрыялаў і шаснаццаці тыпаў рознага тэхнічнага абсталявання, напрыклад, для раздраблення змарожанага мяса, мыцця і стэрылізацыі пакрывак, для брыкетавання паліва і інш.

Прадстаўнікі, зацікаўленыя выстаўленымі экспанатамі, маюць магчымасць атрымаць ад беластоцкіх арганізатараў кірмашу паясненні і поўную інфармацыю аб супрацоўніцтве прадпрыемстваў і абмене таварамі на эканамічных асновах.

Галоўнае, каб Беластоцкі кірмаш прыгранічнага супрацоўніцтва спрыяў пашырэнню абмену таварамі з савецкімі рэспублікамі, стварэнню супольных прадпрыемстваў, якія прадукавалі б тавары на рынак, а таксама, каб гэты кірмаш дзейсна дапамог усім удзельнікам ва ўкараненні навейшай тэхнікі і тэхналогіі.

Такія кірмашы адбываюцца штогод, але на змену — раз у Беластоку, раз у Брэсце. Першы кірмаш прыгранічнага абмену адбыўся ў Беластоку ў 1987 годзе, у 1988 годзе — у Брэсце, а вось гэты, цяпер — у Беластоку.

На кірмашы для наведвальнікаў адкрыты дэталічны продаж тавараў у 30 кіёсках. Цана ўступу на кірмаш 200 злотых.

**Міхась Хмялеўскі**



# ГЛЯДЖУ, ШТО ДЗЕЕЦЦА



**Аўрора:** — Пётр, раскажы нам аб сабе.

**Пётр Байко:** — Паявіўся я на гэтым свеце як Пётр Байко 5 лістапада 1950 года ў Белавежы. З іншых сваіх увасабленняў памятаю вельмі мала — часта сніцца мне вялікі горад, у якім падае дождж; на жаль, у рэчаіснасці на яго я дагэтуль не натрапіў. Мае цяперашнія бацькі — земляробы. Бацька яшчэ працуе ў Белавежскім нацыянальным парку. Зрэшты, у гэтай самай установе працую і я, у аддзяленні, якое называецца Прыродазнаўчы музей. Лясны тэхнікум у Белавежы закончыў я ў 1969 г. Папрацаваў крыху ў лясніцтве, абцёрся аб войска, год чакаў працы і ў 1972 г. пачаў працаваць у музеі... прыбіральшчыкам, чым выклікаў сенсацыю ў асяроддзі. Але хутка авансаваў і ўсялякія здагадкі прыціхлі. Сваёй працай я вельмі задаволены. Мне проста пашанцавала! На жаль, нельга гэтага сказаць пра сямейнае жыццё. Жонка дала мне добрую „школу" і кінула. Жыву адзінока ўжо тры гады. Найбольш сумую па сыне — Луку. Але што ж зробіш?

**А.:** — Калі ты пачаў пісаць?

**П. Б.:** — Да пісання цягнула мяне з наймалодшых гадоў. Як вучань пачатковай школы я наладзіў сувязь з гарцэрскім часопісам „Сьвят млодых". У тэхнікуме стаў карэспандэнтам „Газеты Беластоцкай". Пра „Ніву" ведаў ад пачатковай школы. Разам з сябрамі купляў яе таму, што яна змяшчала інфармацыю, якія фільмы будуць дэманстравацца ў Белавежы. На змест артыкулаў не звяртаў большай увагі, хіба што быў якісьці пра маю мясцовасць. Потым, як у кіно пачалі даваць месячную праграму дэманстрацыі фільмаў, мой кантакт з „Нівай" парваўся. І вось, будучы ўжо два гады працаўніком, я атрымаў ад свайго начальніка, доктара Аколава, некалькі спышак „Нівы", каб іх пераглянуць і адшукаць артыкулы пра Белавежу і Белавежскую пушчу. Д-р Аколаў складаў якраз другі том „Белавежскай бібліяграфіі". Пераглядаючы чарговыя нумары тыднёвіка, я так углыбіўся ў яго змест, што аж сам здзівіўся, як гэта раней мяне „Ніва" магла не цікавіць! Я, мусіць, тады проста не дарос да яе? Я вырашыў выпісваць „Ніву" і наладзіць супрацоўніцтва з рэдакцыяй.

**А.:** — Які першы артыкул ты напісаў да нас?

**П. Б.:** Гэта была інфармацыя п.з. „Белавежскія жанчыны". Надрукавана яна ў № 13 ад 31 сакавіка 1974 г. Як бачым, я ўвайшоў ужо у 16-ты год супрацоўніцтва з „Нівай".

**А.:** — Адкуль бярэш інфармацыі і аб чым стараешся пісаць?

**П. Б.:** — Адусюль! І пра ўсё! Стараюся мець вочы і вушы адкрытымі. Дагэтуль найбольш напісаў пра жыццё Белавежы, пра небанальных людзей, якія тут жывуць, пра гісторыю пушчы. Аднатоўваю ўсялякія беларусіяны, якія паяўляюцца ў Польшчы, асабліва сачу за фільмамі. Пішу пра белавежскія мастацкія пленеры, якіх я вялікі энтузіяст. Даю заметкі пра кніжныя аўкцыёны, на якіх прадаюцца кніжкі, неабыякавыя для беларусаў. Адным словам, тэм не абмяжоўваю. Я палічыў свае артыкулы. На працягу 15 гадоў „Ніва" надрукавала 595 маіх матэрыялаў або лістаў. Думаю, што гэта многа, тым больш, што я пастаянна супрацоўнічаю яшчэ з „Газетай Вспулчэснай", „Тыгоднікам Падляшскім" і „Беласточчынай". Мае артыкулы і карэспандэнцыі можна знайсці ў 30-ці польскіх часопісах і газетах.

**А.:** — Як адносяцца жыхары Белавежы да твайго пісання?

**П. Б.:** — Вельмі рэдка даходзіць да мяне, што камусьці што-небудзь не спадабалася. Але я лічу, што ёсць у мяне права на тое, каб прадстаўляць справы паводле ўласных роздумаў, пачуццяў, а перш за ўсё — ведаў. Часам у маіх публікацыях паяўляюцца нейкія памылкі, але гэта найчасцей віна недакладных інфармацый, якія я праверыць не змагу.

**А.:** — Што табе дае супрацоўніцтва з „Нівай"?

**П. Б.:** — Дзякуючы „Ніве" я стаў свядомым беларусам. Навучыўся пісаць і гаварыць на літаратурнай беларускай мове. Пазнаёміўся таксама са шматлікімі цікавымі людзьмі. Некаторыя з іх жывуць, напрыклад, аж у ЗША. Вельмі задаволены з сяброўства з нашымі карэспандэнтамі.

**А.:** — Не думаеш дэзерціраваць?

**П. Б.:** — А чаму ж бы я меў гэта рабіць? Калі „Ніва" будзе далей друкаваць мае артыкулы, а здароўе дазволіць мне надалей іх пісаць, — вядома, што пісаць буду. Толькі, вось, менавіта з гэтым здароўем у мяне не найлепш.

**А.:** — Над чым працуеш цяпер? Аб чым думаеш пісаць у будучыні?

**П. Б.:** — Цяпер я зрабіў сабе кароценькі адпачынак. З далёкімі планамі стараюся ўстрымоўвацца. Тэмы падказвае само жыццё, не трэба спецыяльна за імі ганяцца. Адзіны мой план далёкага дзеяння — гэта кніжка пра гісторыю Белавежы. Пачаў яе пісаць шмат гадоў таму назад і не магу дагэтуль закончыць.

**А.:** — Дзякуем табе за размову і жадаем усяго найлепшага.

**Аўрора**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## З КОНКУРСУ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ





*Аркадзік Якімюк, першакласнік з Чыжоў, і Юльяна Карзуновіч, вучаніца другога класа з той жа школы, — лаўрэаты сёлетняга конкурсу беларускай песні ў групе наймалодшых дзяцей.*

*Фота Яніны Чэрнякевіч*

### БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

**Частка 2**

Вярнуўся кот Максім дахаты. А яго гаспадар ледзьве дыхае: усе запасы даўно паеў. Развязаў кот торбу, дастаў адтуль усё, што з дарогі засталося, і пачаў карміць гаспадара.

Акрыяў сяк-так пан Глінскі-Папялінскі ды пытаецца ў ката:

— Ну, што табе цар сказаў?

— Нічога цікавага, — кажэ кот.

— Дык ідзі яшчэ раз да цара. Толькі нанасі мне больш яды ў запас.

Нанасіў кот яму яды, а сам зноў пайшоў да цара. Прыходзіць у лес, а тут насустрач яму воўк:

— Куды ідзеш, кот?

— Да цара.

— Чаго?

— На суд.

І расказаў ваўку, на які суд ён ідзе. Воўк кажа:

— Дык і я пайду з табою! Мяне таксама дарэмна часта лаюць.

— Аднаму табе суд не паверыць, — кажа кот.

— А ты чаму ідзеш?

— Што ты параўняўся са мною! Мяне ўся царская радня ведае, а ад цябе нават сабакі ўцякаюць, калі дзе ўбачаць. У мяне там дзядзькі, бацькі, дзяды, браты...

— Дык што ж мне рабіць?

— Збяры сотні тры сведак, тады паверაць.

Падскочыў воўк, аб зямлю стукнуўся ды завыў на ўвесь лес:

— Дзядзькі, бацькі, дзяды, браты, бяжыце сюды!

Назбіралася ваўкоў з усяго лесу.

Павёў іх кот Максім да цара.

Прыходзіць на царскі двор. Нецярплівыя ваўкі кажуць:

— Мы першыя на суд пойдзем.

— Не, — кажа кот, — мая скарга там даўно ляжыць. Як скончыцца мой суд, тады я падам вашу скаргу і вас паклічу. А пакуль што пачакайце ў гэтым хляве.




Ваўкі падагнулі хвасты ды пацягнуліся ў хлеў. Як толькі зайшлі ўсе, кот — бразь! — і зачыніў іх там. А сам падаўся ў палац, у ладкі плешчучы.

Узыходзіць на ганак: стук, стук! Знаёмы салдат адчыніў яму. Кот проста да царскіх пакояў шыбае. Увайшоў да цара, добры дзень даў.

— Што скажаш, каток? — пытаецца цар.

— Так і так, — кажа кот Максім, — прыслаў табе мой гаспадар пан Марцін Глінскі-Папялінскі новы гасцінчык.

— Добра, — кажа цар.

Прыйшоў у хлеў, глядзіць, а там ваўкоў лікам нязлічана: і ў загарадках поўна набіта і яшчэ пад страхою, на вышках, процьма. Загадаў цар ваўкоў пабіць, усім сваім слугам футры пашыць, а кату кажа:

— Перадай пану Глінскаму-Папялінскаму: няхай сам да мяне ў госці прыедзе.

Прыбег кот дахаты ўночы задыхаўшыся. Пачаў тармасіць гаспадара. Ледзьве дабудзіўся.

— Уставай, — кажа, — я ад цара прыйшоў.

Раскатурхаўся сяк-так Глінскі-Папялінскі, пытаецца:

— Што цар сказаў?

— Сказаў, каб ты сам да яго ў госці ехаў.

Пачухаў Глінскі-Папялінскі патыліцу:

— У чым жа я паеду? Я ж голы, як бізун!

— Нічога, — кажа кот, — што-небудзь прыдумаем.

Сабраліся яны і бягом пабеглі да цара.

Бягуць, бачаць — недалёка ля гасцінца цэлае войска салдат стаіць. Кот спыніў гаспадара.

— Пачакай, — кажа, — тут.

А сам крадком пайшоў да войска. Назнімаў у сонных салдат шапак і напакаваў імі два мяхі. Адзін мех на плечы ўскінуў, другі гаспадару даў. І пайшлі сабе далей.

Падыходзяць да рэчкі. Кату піць захацелася. Паставіў ён свой мех ля моста, гаспадара за каравульнага пакінуў, а сам палез у рэчку ваду піць. Напіўся вады, бачыць, — паўзе рак у нару. Кот схапіў яго за вус і выкінуў на бераг.

(Працяг на стар. 10)

Мар'ян Дукса

### ДУХМЯНЫ СОН

Ах, якое захапленне —
Спаць усёй гурмой на сене!
Спаць на пахкім муражку,
Што казыча нам шчаку.
Мы глядзім
У цемру смела —
Нас тут цэлая капэла:
Я, старэйшы брат мой Федзя,
Аднакласнікі-суседзі,
Госць,
Якому надта рады, —
Даўні сябар з Ленінграда.
Позна ўжо.
Ніхто не спіць —
Толькі сена шамаціць.
Грае конік гэткім зухам
За сцяною,
Як пад вухам.
І таму ніхто не спіць —
Чыйсьці яблык храбусціць.
Так чутно:
Ля самых ног
Кошка шастае ў мурог.
З-пад страхі
Кажан шугае —
Яго вабіць
Ноч глухая.
А уранку спіцца так —
Не дабудзяцца ніяк.

### ЗЁЛКІ

Навокал —
што ні крок —
Духмяны чабарок,
Ружова фіялетавы.
Зноў прычакалі лета мы.
Як толькі прыйдзе ранак,
Збіраем святаяннік.
Рамонкі палявыя,
Рамонкі лугавыя
Сустрэцца з намі прагнуць —
Штодзень цвітуць і пахнуць.
Падыдзем, паварушым,
Сарвём і ў цень — засушым.
Растуць для добрай справы
Ўсе лекавыя травы.
Збіраюць іх усюды:
Ад кашлю,
Ад прастуды,
Ад колікаў і боляў —
Каб не было іх болей.
Гараць у небе зоркі,
А ў хаце пахнуць зёлкі.
Яны — бабульцы лекі,
А рэшта — для аптэкі.

---

Ларыса Геніюш

### ЗУБРЫ

Белавежаю
крочаць зубры,
Пушчы слаўнае
валадары.
І мядзведзі
і злыя ваўкі
Зразу
кідаюцца ўбакі.
Толькі зайчык адзін
не баіцца.
Скача, скача
ля светлай крыніцы.

---

Васіль Лаўрыновіч

### МЁД ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Я стаю сярод палетка —
Нібы казка, нібы сон...
Расцвіла навокал грэчка
І стаіць пчаліны звон.
Ён салодкі і вясёлы
Сабіраюць нектар пчолы.
Пчолы знаюць: любяць дзеці
Мёд найбольш за ўсё на свеце.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 2) відазменены кісларод, 6) выраз твару, выгляд, 8) мова буслоў, 11) тлушч, 12) час, праведзены далёка ад блізкіх, 14) іграе, калі шарпаеш за струны, 15) ездзілі ў ёй паны, 17) скульптар, 20) спартыўная гульня, 23) кніга ў настаўніка з вучнёўскімі двойкамі, 24) непатрэбныя рэчы, 25) бераг напрыклад, стала.

**Уніз:** 1) легальны мардабой, 2) упарты, з доўгімі вушамі, 3) прырода або характар, 4) робіць мёд, 5) колер шэрсці ў жывёлы, 7) дзяржава ў Азіі, 9) калі выбіраешся, бяры іх пад пахі, 10) куе молатам, 13) форма спаборніцтва, 15) можна ў яго сесці або яго нарысаваць, 16) у шахматах стаіць на а-1, 17) мексіканскі танец, 18) паласатая жывёла, 19) мова сабак, 21) непрыемная на пах сумесь або вадкасць, 22) ніжэйшы за сапрана

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 20.**

**Упоперак:** дакумент, лоўля, лубін, зрыў, склон, канваір, разнік, помста, вадаём, аканне, армянін, нырка, іржа, кар'ер, змена, ластаўка.

**Уніз:** далакоп, кабан, манна, ноздра, воўк, вясна, лысіна, лыка, воск, Іран, звер, ідэя, Маўр, Тамара, манерка, нарада, князь, макет, нарыў, кіно.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Анатоль Кладніцкі з Наваполацка і Фёдар Рымашэўскі з Мінска.



# НІЎКА



Мал. Юльяна Багдановіча.

## Паўторнасць непаўторнага

542
Хаця і жывеш на зямлі толькі хвілінку, паводзь сябе так, як бы збіраўся на ёй жыць вечна.

543
Бывае, што салодкая мана з'яўляецца адзіным лякарствам на горкую праўду.

544
Хаця каханне і вядзе нас часта да скептыцызму і безвер'я, то ўсё ж такі трэба яму верыць.

545
Кепска, калі ўрад баіцца грамадства, але не лепш, калі грамадства баіцца ўрада.

546
Часта брыдкае, агледжанае здалёк, выглядае прыгожа, а прыгожае — зблізка — брыдкае.

547
Часта непажаданае засядае ў памяці каменем, а пажаданае вылятае з яе птушкаю.

548
Чалавек, які рагоча без прычыны, — сумная з'ява.

549
Громаадвод пры крыжах на святынях сведчыць аб тым, што людзі скептычна глядзяць на добрую волю Бога.

550
Многія ўцякаюць, калі трэба скінуцца, але вяртаюцца, калі можна ўжо выпіць.

551
Есць людзі, якім намнога лягчэй сказаць няпраўду аб праўдзе, чым праўду аб няпраўдзе.

**Алесь Барскі**

### МУЖЧЫНСКАЯ РАЗМОВА

Прыдзіраецца мой начальнік да мяне! То спазніўся на работу, а то адлучыўся некуды на доўга сярод дня, то крыху раней пайшоў дамоў... Быццам я не маю права на асабістае жыццё. Нарэшце, мне абрыдла ўсё гэта, і я вырашыў, як мужчына з мужчынам, пагаварыць з ім. Вядома, па тэлефоне. Лягчэй гаварыць, калі не бачыш перад сабой субяседніка. Спусціўся да тэлефона-аўтамата, набраў нумар.

— Слухаю! — пачуўся ў трубцы строгі голас.

— Справа вось у чым... — і раптам мой язык пачаў гаварыць зусім іншае: — Учора быў сход наконт працоўнай дысцыпліны. Вы там крытыкавалі прагульшчыкаў, абібокаў... Алё!.. Я хачу сказаць — правільна вы ўсё гаварылі. Толькі трэба яшчэ больш рашуча і цвёрда брацца за парушальнікаў. Каб не было ім месца сярод нас!

— Хто гэта гаворыць?

— Усе так гавораць, — сказаў я і павесіў трубку.

**Васіль Феранц („Вожык", № 3/1989)**

## ЕХАЎ ЯНКА...

Кавуны асот глушыў,
Сохлі журавіны.
Ехаў Янка па шашы,
Ажно пыл з-пад шынаў.

Не на жарты газануў
У буфеце з Васем,
Слуп дарожны абярнуў,
Свой „Кавун" расквасіў.

І... заплакалі „правы",
І судзіць павінны...
Сыпле Янка ў рукавы
Слёзы-журавіны.

**Пятро Сушко**

*(З кнігі „Восці напагатоў")*

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### КУПАЛА НА ЙВАНА!
**(народная)**

Купала на Йвана!
А на Йвана ў вароцiхах,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
Пара коней запражоных,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Толькі сесці паехаці,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
За рэчаньку па дзяваньку,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Дзяўку вязуць — музыкі йграюць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Музыкі йграюць, хлопцы спяваюць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
А на Йвана ў вароціхах,
Купала на Йвана,

Купала на Йвана!
Пара коней запражоных,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Толькі сесці паехаці,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
За гараньку па ўдаваньку,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Удоўку вязуць — дзеткі бягуць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Дзеткі бягуць, дзеўкі пяюць,
Купала на Йвана!






Практыканту будаўніча-рамонтнай брыгады загадана памаляваць вокны ў кватэры дырэктара канторы. Праз гадзіну звоніць ён шэфу і дакладвае:

— Гаспадар, вокны ўжо памаляваны. Хачу толькі спытаць, ці трэба маляваць рамы?

*

— Вы ўзялі інтэрв'ю ў лорда Дамбхеда? — пытае рэдактар.

— Так, але ён мне нічога не сказаў, — адказвае журналіст.

— Гм, а колькі гэта месца зойме?

*

Падчас бегаў адзін конь пытае другога:

— Скажы мне праўду, колькі ў цябе конскіх сіл?




**Новыя грахі вызваляюць ад старых згрызот.**